Юрка Голуб

# СЫН НЕБАСХІЛУ

Вершы

Мінск
«Мастацкая
літаратура»
1989

ББК 84Бел 7
Г62

Поэт Юрка Голуб (родился в 1947 г., живет и работает в Гродно), автор книг «Гром на зеленые ветви», «Древо грозы», «Незабываемое поле», «Помню о тебе», имеет свой творческий голос, свою манеру письма. Оригинальные по мысли и по исполнению, насыщенные неожиданными метафорами и сравнениями, его стихи волнуют, запоминаются.

В новой книге «Сын небосвода» читатель найдет конкретные земные реалии, увидит фигуры своих предшественников и современников.

Г $\frac{4702120202-016}{М\ 302(03)-89}$ 46—89

ISBN 5-340-00189-X



## Праз жыта

Пад шолах аблокаў і дум
Рака спавівае аблогу.
Праз жыта, высокі, іду
Туды,
Дзе не будзе благога.

І сцежка вядзе за руку.
Валошка — жывы напамінак
Пра тое, што ў родным кутку
Не сеюць жанчыны на мінах.

На што ж мне далегла цяпер
У коласа,
Каменя,
Кніжак
Дый шчасце узяць напавер
Без думкі, што ўзята залішак.

Абапал узгоркі ідуць
Пад назіркам зоркі вячорнай.
У жыце пра скруху забудзь,
І доля не збудзецца чорнай.

У жыта спытацца спяшай
Пра неба,
Найлепей — пра зерне.
І жыта зямлю, нібы шар,
Табе для абдымкаў паверне.

## Начны маналог

Недзе кроілі скалы.
Дрэнь піхалі на трон.
Землятрусы скакалі
З ап'янелым нутром.

Век мой бэзу і сталі
У сцягах, у бінтах,
Над табою паўсталі
І слізняк, і бунтар.

На якой жа падставе
Маюць ласку спяшаць
Той —
Каб грудзі падставіць,
Той —
Каб толькі урваць?

На пляцах і пляцоўках,
У чайных і чаўнах
Той —
Не зносіць спяцоўку,
Той —
Душу з чыгуна.

Гэты —
Сэрцам не высах
У людзях, сіняве.
Той жа —
Горлам у высях,
А сумленне ў хляве.

Праваты далакопы,
Пустаслоўя чмялі,
Вы ад нас недалёка
На зямлі і ў зямлі.

*

Маналогу патрэбны
У пачатак зварот.
Там і кніжцы, і зрэб'ю
Рады цэлы народ.

*

У іржавых абмотках
Голад з гневам брылі,
Быццам цені аблокаў
Па шурпатай раллі.

Да дзіравай галечы
На няшчымны урок
Бэзу белага глечык
Зазіраў незнарок.

Ды з глухога абрэза
Той асвеце на злом
З найпяшчотнага бэзу
Громам гыркала зло.

Васпаватай заразе
Час патрапіў пад дых
І шурпатаю граззю
На тачанцы застыг.

І з парванай грудзінай,
Дзе вятры навылёт,
Не вагоны грузілі,
А грузілі узлёт.

Ад сялянскай спадніцы,
Ад снапа і камля

З небам здумаў радніцца
Твой абраннік, зямля.

*

Маналогу патрэбны
Да трывогі зварот:
На касмічную грэблю
Шал збірае звяроў.

*

Красавіцкай ракеты
Гул развальвае скронь.
Шлях да зор пракаветны
У агонь праз агонь.

На балючых этапах,
На рамонках нябёс,
Людзі, мілыя птахі,
Вам трывожна нябось?

За світанак тамтэйшы...
Абеліск у слязе...
За траву пад падэшвай...
Белавеж...
Калізей...

І няўжо не засвеціць
Вам прыветна здаля,
Стане вою-сусвету
Медальёнам Зямля?

І ў шкарлупцы маўчання
Скамянее вулкан,
Нібы помнік адчаю,
Што дастаўся вякам?

*

Маналогу патрэбны
Да нашчадка зварот:
Будзь ласкаў, не пагрэбуй,
Прылятай у народ.

*

Хай пагодна і ясна
Знак падасць нам здалёк
І не морак заўчасны,
А ў жытах васілёк.

## Аптымістычнае

Праўды мы ўстыдаліся заўчора:
Не да смаку шышкі аграбаць.
Боязь неабходна выкарчоўваць,
Каб «выдаўліваць з сябе раба».

У членкора, следчага, даяркі
Гонар ёсць і месца для душы.
А дзялок, бясхмарны і бяздарны,
Іх цішком стараўся задушыць.

Пірамід уяўных наскладалі,
Паглядзіш — і кругам галава.
Біць у грудзі, верце, не складана,
Як складаней лёс адбудаваць.

На трыбуну часу з поўнай зяпай
І ў нутро музейнае цішы
Запаўзала хцівасць ціхай сапай
Васілёк у жыце заглушыць.

Лаўкачы, дэбілы і драбілы
Пад узнёсла-буйны барабан
У вышыні лезлі па драбіне,
Каб «здабыткаў» аглядаць дзірван.

І маглі гапак адборна збацаць
На пляцоўцы, дзе стаяў сабор...
Край жытнёвы,
Зорны
І рыбацкі
Узнімае праўду над сабой.

Узнімае, каб лягчэй расцягваць
Махляроў, хапугаў, што гырчаць,

Хто, прыкрыўшыся дзяржаўным сцягам,
На сялянскіх пасвіцца харчах.

Мы сябе ў дарозе перарobім,
І нішто нас з тропу не саб'е.
Будучыні блізкі аэробус
Не падніме смецце на сабе.

Мы сябе з карэннем перайначым,
Да крыві абдзёртыя аб шлак.
Нам балюча будзе, няінач...
А інакш — затравее шлях.

## Прыйшла пара

Прыйшла пара паўстаць
Загубленым бязвінна,
Бо ўсцешны той, хто даць
Умеў, каб душу вынуць.

Мусове адчыняць
Замшэлыя архівы.
(Шукае ключ з паўдня
Сабе наўме жахлівец.)

Прыйшла пара зірнуць
У склют таго барака,
Дзе чорную зару
Глыдалі небаракі.

Прыйшла пара займаць
Лясамі праўды гала,
Дзе трушчыла зіма
Спіну лесапавала.

Прыйшла пара схапіць
У пастку лапы здзеку,
Бо за бацькоў баліць
І не сціхае дзецям.

Крывёй аб тым пісаць
Да скону і нязводна,
Каб поўсць паўстала ў пса,
Якім цкавалі го́дных.

## Рытарычнае

Хвалюецца рата зямная
У роздуме,
Небе,
Траве...
Нам сіла праз край замінае?
Няхай жа адвага жыве!

Гадуюцца ўсплёскі настрою.
Чакаецца свята рыўка.
І сэрца вышэе на строме,
Дзе ветру, як зубру, рыкаць.

Краіны мудрэе аблічча
У метах нязводных падзей.
Ці трэба ліхвярна разлічваць,
Куды сваю годнасць падзець?

Не стаць жа ля хісткага плоту
На сцежках спакусы крывых.
Няўмольная прага палёту
Хай рвецца з юначай крыві.

І зробяцца дні, як зарубкі,
Прыкметамі гордых праяў.
Мы возьмемся моцна за рукі —
З нас подзвігу кожны спрыяў!

## Колькі часу?

Памарудзь і паперы збяры,
Сам з сабой не спрачайся.
Уздыхаюць, як людзі, бары.
Колькі часу?

Ходам дрэвы, і словы ідуць,
І вайсковыя часці.
Хай яны не сустрэнуць бяду.
Колькі часу?

На парозе слязы і сустрэч
Сэрца грукае часта.
Не трымці, не шкадуй, не пярэч.
Колькі часу?

Ды ў краіне аблок і ажын
Вуснаў губіць прычасце.
Колькі часу усё ж, адкажы,
Колькі часу?

# Нябёсы

Гадавіна нябёс.
Іх нязнаны кірунак.
Іх вачыма ты нёс.
Не сабе ў падарунак.

Ад званка да званка
Стыў у шэрым шынелі.
Там вятры на замках
Безнадзейна шалелі.

Там ракеты раўлі,
Дзе надзейныя сховы.
Ды па роднай раллі
Не мільгнуць выпадкова.

Цяга траў і нябёс.
Ходзіш пырнікам босы,
А чакаеш найбольш
Ласкі ўсё ж ад нябёсаў.

Бусел будзе тужыць
Над палескай Сахарай.
А табе пакажы
У пустэчы захмар'е.

На падступнай вярсце
Ледзь жывы, непрытомны,
Ты адчуеш — расце
Гул зямелькі ў прытоме.

І каб ёй назаляць —
Толькі гэтага бойся,
Бо не возьме зямля,
Паляціш на нябёсы.

## Чырвоная кніга

*Генадзю Бураўкіну*

Колішніх птушак спеў
І рык кудлатага звера
Хто захапіць паспеў,
Дагэтуль сабе не верыць.

Бо потым пад ляск і віск
І лямант сп'янелых оргій
Над пушчаю стрэл павіс
І пушчына сэрца торгнуў.

Білі.
Гналі.
Пілі.
Глум, як драпежнік, правіў.
Стане трывожна, калі
Кроў праступае з правіл.

Звер адышоў углыб.
Стала нябытам пташка.
З каменнавугальных глыб
Вяртацца даволі цяжка.

Жывое каб зберагчы
Ад джунгляў і да Нямігі,
Дарэмна ў свет не крычы —
Стала патрэбнай Кніга.

У кнігу заносяць імя
Насельнікаў месц чароўных.
Людзі на схіле дня
Назвалі яе Чырвонай.

Над ёю ні стрэл, ні шал
Не змогуць зноў уваскрэснуць.
Не зможа ганебна шваль
Ніводзін радок закрэсліць.

Слова-сняжок варушу.
Чуе мова адлігу:
Заносяць яе душу
У Чырвоную кнігу.

## Прызнанне ядлоўцу

На векавых каменнях
Высахла колькі рос?
Ляцела наўзбоч праменне,
А побач ядловец рос.

Усцешаны і прашыты
Сіверам да касцей,
Пяскі мацаваў ля жыта
І птушкі хаваў пасцель.

Гляджу на яго карэнні
На выпетраных палях,
А знізу пад імі — крэмень,
Над імі — краіны дах.

Смалою яго таўровай
Азначыш мне, край, далонь.
Ядловец не йдзе на дровы,
Ядловец ідзе ў агонь!

А з доляю беларуса
Не ў космасе — па траве —
Запэўніць усё ж бяруся —
Ён міма не праплыве.

З воблікам непакоры,
Паставаю не відзён,
Мае стожыльны корань,
Да пошуму не жадзён.

Каму хапіла знямогі,
А можа, і дух ачах,
Ядловец да перамогі
Пакажа вячысты шлях.

Вечназялёны браце,
Пад воблакам наўскасы
Ідзём мы пры роднай хаце,
Дзе спевы і каласы.

Уздыбленыя сумёты.
Спякоты сухой ярмо.
Ядловец маёй самоты
І радасці заадно.



## Радзімае

Гудзе бруя ў рацэ —
Адвечная гаворка.
Радзімка на шчацэ.
Радзіма на пагорку.

Пры лёце зор да траў
Устане час з нябыту.
Радзімка на вятрах.
Радзіма каля жыта.

І новы дзень шчасцеў,
Хаця было і горка.
Радзімка на шчацэ.
Радзіма на пагорку.

Пад шолах хмар і ніў
Любоў да вас я змераў,
Я вас абараніў
На ўсё жыццё наперад.

Нібыта спарышы,
З сусветнае валокі —
Радзімка на душы,
Радзіма — пад аблокі.

# Над Нёманам

Нечакана ўспомнены
У гаючых снах
Ля надброўя Нёмана
Зорка і сасна.

Сто разоў закручана
Хваля ў хвалю зноў.
Робяцца заручыны
Раз —
Не сто разоў.

На раллю шурпатую
Бусел кіне цень.
За стырном і партамі
І наступны дзень.

У каўшы Мядзведзіцы
Стыне маладзік.
Тэрмін жыць адведзены,
Ды, на жаль, адзін.

Сцежкі непратораны.
Воблакі.
Парнас.
Будзе ўсё паўторана,
Толькі не пры нас.

Ды заўжды нязломныя,
Вея ці вясна,
Ля надброўя Нёмана
Зорка і сасна.

## Дым над партызанскім лесам

Дым ляціць высока і гаюча.
І канца прасторы не відаць.
Ападае лісце. І нягучна
Не сціхае полымя гучаць.

Не спяшайся, дыме.
Шлях не блізкі.
У краіне ранішніх азёр
Каскі выгартаюцца [redacted] разор
І выходзяць [redacted] жыта абеліскі.

У цябе дарога не ляснал,
Там, дзе грэблі,
міны,
кроў
і жах.
Толькі памяць цяжка навісае
На чужых паветраных крыжах.

...Уздыхае вечнасць над палямі.
Там жалезам вырвала бур'ян.
Спіс пакут, што выпалі барам,
Забаліць, застогне, запалае.

Партызанскі лагер.
Вільгаць.
Вецер.
Роздумы ўзварушвае агонь.
Дым яго ляціць па белым свеце
За чыімсьці лёсам наўздагон.

## Поле бою

На непаланёных рубяжах
Ходзіць жыта радымі радамі...
Тут гула акопная мяжа,
Санітарка з роспачы рыдала.

Слухае нязмушаны прамень
Пераклічку ластавак на дроце...
Тэлеграфны слуп стаіць пры мне:
Сувязь не данёс забітай роце.

Грузавік накручвае на слых
Два ніты раскручанай гравейкі...
Біла артылерыя пад дых,
Западала сонца за павекі.

Каласы у стоме не дрыжаць,
Воблакі вандруюць з гарадамі...
На непаланёных рубяжах
Ходзіць жыта думнымі радамі.
...На непаланёных рубяжах.

## Партызан

Аляксандр Сцяпанавіч Жук,
Толькі вас прыгадаю —
Бачу:
Са слуцкіх рук
Сонейка выглядае.

Хінецца ад сцежак палын.
Сярод партызанскага краю.
І ваш высокі ўспамін
Вайну прысудам карае.

У белых вашых начах
І ў галаве не купчастай
Усходзяць, як на вачах,
І радасць, і боль — адначасна.

Жалезныя скрозь шляхі
Вашага кулямёта.
Бінт не бывае сухі,
Калі з яго кроў — на сумёты!

Памяць — як шолах травы.
Памяць не мружыць зрэнкі,
Таварыш былы вартавы
Таварыша Панамарэнкі.

Запал у вачах не ачах.
Скажацца без сумнення:
Кожны такі случак —
Бацька майго пакалення!

## Дождж у канцы вайны

У Цэнтральнай Еўропе
На зыходзе вайны
Дождж адорваў па кроплі
Вокамгненныя сны.

Ён вільготнай накідкай
Шапацеў,
Ахінаў...
І на ўзлесках някідкіх
Задрамала вайна.

Ды каманды улада
Выбівала са сну
І байца над прыкладам,
І ў прысадах вясну.

І зара яравая
Ад жалезных стваloў
Напал ноч разрывала
І крывавіла зноў.

Маладое пяхоты
Свет не можа забыць.
...Дождж суровы, пяшчотны
Над гранітам стаіць.

# Аляксандр Твардоўскі ў Гродне

Тут немцаў выпіхнулі з горада,— але яны — вось яны за ракой, і нават утрымліваюць ускраіну. Б'юць артылерыя і мінамёты, пастрэльваюць аўтаматчыкі з гарышчаў і акон.

*А. Твардоўскі*
*«Паездка ў Гродна», 1944 г.*

Хлопцы падаюць ніцма
На крывавых дакосках.
...Гэта ўжо не прысніцца,
Падпалкоўнік Твардоўскі.

...Пад падэшвай салдата
Друз ахвярнае цэглы.
Русым чубам багаты
Ўваскрашэнец палеглых.

Сонца. Ліпень. Асколкі.
Барвавее папера.
Часу мелася колькі
Гора вершам памераць?

Вас, як сына, пазналі
Беларускія вёскі.
З імі слёзы спазналі,
Падпалкоўнік Твардоўскі.

Паглядаюць салюты
На паранены Нёман.
Май святла і пакуты
Быў пакуль невядомы.

Ляжа верш на абрусак,
Зачытаны да коскі.
Трэці фронт Беларускі.
Падпалкоўнік Твардоўскі.

## Ваенная кінахроніка

Вунь сяржанцік... дзіця...
Ды, магчыма, хрыпаты.
Міны глуха ляцяць.
Перавалы. Карпаты.

У крыві і гразі,
У бінтах і шчаціннi,
Ім нябытам гразіў
Кожнай хвілі гадзіннік.

Сон на маршы. Дэсант
У задусе саляры.
Як рукою дастаць!
Не дацягнешся. Марна.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Побач курацъ, сядзяць,
Хто сівы, а хто лысы.
Кадры:... ніцма салдат...
...І варушыцца лісце.

## Бяссмертнік на пяску

Бяссмертніка доля — пясок.
Са смагай адвечнаю кветка.
Суседзі, дык тыя паўзком —
Дапасці да рэк пракаветных.

А гэта стаіць на грудку
І голас адслухвае сойчын.
Спрадвеку ў тутэйшым кутку
Не скажуць — пясок —
А пясочак...



## Бор сасновы

Прасеку праломвае рэха,
Не буду яму назаляць.
Тут кулі шалёнага рэйха
Хацелі сасоннік зламаць.

Як ёдка яны засвісталі
І рэху парвалі гартань.
Рука не ўзнялася святая
Пад імі малітву гартаць.

Бязлітаснай кары дзясніца
Асвечвала зрэб'е кары,
І падала полымя ніцма,
Бо помсту яму не скарыць.

...А бор у задуме чытае
Трывушчай зямлі жыццяпіс.
І сосны пасталі шчытамі,
І воблак над імі завіс.

Тут птушкі да спеваў палезлі,
А пеўчы жадзён і спрыцён.
Ды свіст невідушчы жалеза
І ў трэцім калене чуцён.

Яны прыносяць у дзюбах,
на хвастах
і ў кіпцях
мноства прыкмет размаітых,
па якіх адзначаецца
беспамылкова,
дзе шчэбету шмат
на планёрках лясных,
дзе высушылі балота
і жабы павыміралі,
як маманты,
дзе страляніна ўсчалася
датэрмінова,
а дзе назначаны
святочны кірмаш
перад зборам у вырай.
І нават самы злавесны
крумкач
і той
прынёс вестку:
маўляў, няблага яму
без занятку.

# Замкавая гара ў Навагрудку

Колькі вятроў Беларусі
тут начавала,
не ведае нават
трава.

Колькі разоў небяспека
сюды прыпаўзала
з агнём і мячом,
зямля
не палічыць.

Колькі паданняў тут
уваскрэсла,
не згадаюць русалкі
па Свіцязі.

Колькі аблокаў адсюль
адплыло
у Канстанцінопаль,
не скажа грабніца
на Вавелі.

Думаў так падарожны
нядаўна
на дзядзінцы
Навагрудскага замка.

## Сынкавіцкая царква

Развалілі не так даўно
далакопы
рыдлёўкамі ўспатнелымі
курган на вятрах,
потым архіў
з пяшчотным пергаментам
літар.
Вішня прызнанняў
маіх закаханых
пад пагрозаю перасадкі.
Але не адужаў яшчэ
ашчэраны часу бульдозер
падкапацца пад мур
Сынкавіцкай царквы.



## Маўчыць каменне

Воблік мудрасці
і напамінку,
што нявечна будзем жывымі,
з профілем зубравым
камень.
Нераскрадзены памяці схоў,
фанатэка маўчання.
У 1752 годзе,
верасня 27-га,
Каралеўскага палявання
падчас
за сорак зуброў абязвечылі.
І вызначылася каралева:
дваццаці
яна смерць адваліла.
Дык ці не гэтым абураны
і цяпер камяні
каля соснаў
за вёскаю Вердамічы,
на рагу Белавежы?

## Біяграфія соснаў

Пасляваенных друзоў ураджэнкі,
Наступніцы абсмаленых пагарэльцаў,
Суддзі бруднага дэзерціра,
Сведкі радасці і слязы.

Пастрыжаныя вятрамі,
абмытыя хмарай спагады,
абнюханыя пысай каровы
удовінай,
абмераныя вокам з дарогі
сосны роднага лесу.

Абсвістаныя самалётамі,
атуманеныя імжой неспакою,
абчасаныя сякерамі
скразнякоў,
зноў зашумелі сосны.

Перачытвае вецер тваю
біяграфію.

## Унук і песня

Наракала бабка зычліва,
паўзуна-унука
люлюючы,
чаму той цяжкі
на гутарку.

З часам
ад сурокаў у прыцемку
загаворвала.
Не давала
ў калодзеж пляваць,
каб потым вады
змог напіцца.

Як капейку і хлеб шанаваць,
павучала.
А ўнук не вытрываў
і зазлаваў
неўспадзеўкі.

І зараз
песня журыцца
зэльвенская:

*Паехаў, паехаў,*
*Нідзе не відаці.*
*На бітым гасцінцы*
*Два слядочкі знаці.*

## Самапіска Анатоля Клышкі

Там вавёрчыным пыскам
Фортку ранак працёр.
На стале самапіска —
Гаспадар каля зор.
А як лахі пад пахі
Падбіраў гаспадар,
Дык бабулі і птахі
Пачалі спагадаць:

— Ты куды праз аблогу?
І ні свет ні зара.
Пачакае дарога...
— Мне ў дарогу пара!

З ім пайшлі цераз леты
За заслонаю зім
І шкаляр у паэты,
І дашкольнік за ім.

Хіба дзеду старому
У вандроўку спяшаць
Там, дзе возера Кромань
Ці рачулка Уша?

І з вясёлым імпэтам
Склад да склада складаць?
То на зайздрасць паэтам,
Што на печы сядзяць!

Як марозік з прыціскам,
Як дарога з двара,
Сіні след самапіскі,
Чысты снег буквара.

## Ліст Дануце, сур'ёзны і не вельмі

Калі сказаць па праўдзе
І нават не грашыць,
З прымусам ты не ладзіш,
На мне — хоць кол чашы.

Зрабіць характар гнуткім
Не здолее дубец.
Хацеў бы — толькі дудкі! —
Прамым лацвей дубець.

І са стрыжовай стромы,
Загорнутым у верш,
Ты Нёману старому
Любістак падаеш.

Губляючы галёшы,
Табе ў нямы дакор
Адтуль якісь Алёша
У дзікім трансе пёр.

Тваім бабулям, цёткам
Ад Гаўі да Дзвіны
Гаі гатовы цёхкаць,
Звінець вякоў збаны.

Тваім празрыстым зёлкам
Са сподкамі вачэй
Трымаць расу на золку,
Пяшчотна грэць ручэй.

Дый не ў пагодным стане
Без роспісу пасла
Табе радок дастане
З-пад Замбіі бусла.

Ды толькі сумнай прозай
Пытанне паўстае
Сярод метафар розных:
Чаго нам не стае.

І хмурыць роспач бровы:
А як нам рады даць —
Табе — даіць карову,
А мне — касу кляпаць?



## Камін у доме Ажэшкі

Ахутаны дымком эпохі
У доме кніжніцы сівой,
Яму здалёк схіляўся чохам
Народ удумнай галавой.

У водбліскаx ляцеў вячорных
Агонь надзеі і касы.
Стаялі побач з лёсам чорным
Сялянак жытніх галасы.

У гаспадыні мудры позірк,
У пані з мудрасцю тамы.
І да аблок у часе познім
Плылі Ажэшкавы дымы.

І на лісце вугольнай сажы
Трывожна час пакінуў след.
Акамянела след раскажа
Агню Элізы запавет.

На скрыжаванні кніг і лёсу
Яму не сказана: *Амін.*
Спытаць з надзеяй давялося:
— Маўчыць камін?
— Гудзе камін!

## Вуліца Пестрака

Піліп Сямёнавіч тады
у жарт казаў з прыціскам,
што рады з хлопцам маладым
і да даяўчат прайсціся.

У тым квартале, дзе турма
маўчала, бы нямая,
Піліп Сямёнавіч трымаў
нязнаных дум нямала.

А ў чамаданчыку былі
акрайчык,
змылак,
томік,
бялюткі, нібы лён былін,
ручнік — удерці стому.

Піліп Сямёнавіч казаў
і нават прышапетваў,
маўляў, спявай сабе, казак,
і песня будзе спета.

За песню да шчарбатых нар
пад назіркам кульгала
юнацтва, з ім і камунар:
глянь, галава — як гала.

А потым пад аховай год
прылюдна і пачэсна
ішоў ён, вольны, у паход,
дзе сёння ўсім не цесна.

...Піліп Сямёнавіч, у Вас
фальшыўцам,

хціўцам,
дурням
быў прызапашаны аванс —
па мордзе даць культурна.

Баюся лоск на Вас надзець
і лепш пайду за сонцам
на Вашу вуліцу глядзець
па Вашай завядзёнцы.

## Рыгор Семашкевіч
## у Дубултах

Нас удача знайшла сама.
І ў няўклюдных абдымках дружбы
Ты скептычна глядзеў на ружы,
А на мора глядзеў усмак.

Зорка ўсходзіла на маяк
І ляцела ў нутро заліва.
Ты яго —
Што зусім не дзіва —
У суполку сабе наймаў.

Куртку, шытую скразняком,
Расшпіляў электрычны поезд,
І хапала тады за пояс
Нешта ўладнае — рызыкнём!

Не хіснецца радок з ляза.
(Можа, хто і зубы паскаліць.)
Мы тады не слязу пускалі —
Ачышчаліся пры слязах.

Па старонках маўклівых кніг
Адыходзяць захмарна даты.
Ім сябе безахвярна даў ты —
Так прасторы даецца міг.

Зноўку верасень залаты
Расхіляе імжу ля соснаў.
Наспружынены невыносна,
З небам звязваюць іх ніты.

## Верш пра сяброў, напісаны на моры

Я сяброў нямала пахаваў.
Сам без шапкі іх выносіў з хаты.
Не ссівела з гора галава,
Ды жыву за імі, вінаваты.

Месяц лечыць адламаны рог.
Памяць зацыроўвае цяльняшку.
Ды жывыя ўсмешкі не збярог.
Зберагчы астатняе няцяжка.

Мора не ўздымае гарбылі
І сусвету шэпча сон на вуха.
Вы на слова здатныя былі,
Мне пякуча вашы твары слухаць.

Мы ляжалі ўпокат на траве,
Там кавала, пела і свірчэла...
Паўстае ў зазорнай сіняве
Вашых думак гулкае свячэнне.

Нечакана крокі паўстаюць
І праходзяць сцежкаю старою.
Давяралі ночы і сталу
Шолах бліскавічны ад старонак.

Вам з сабой ніяк не захапіць
Шлях, што дзеразою перавіты,
І таму нястомна зіхаціць
Млечны Шлях з нярушнаю арбітай.

Радасць вашу дзецям я аднёс,
З ношкай той не справіцца заморак.
Знічку адрывае ад нябёс
У слязу, глыбейшую за мора.

## У кнігарні

*Алесю Жуку*

Кнігі гартаю. Складу.
І падумаю раптам:
Гэта ім адварочваць бяду
Ад дзяцей і аратых.

Праўду ім уздымаць,
Страх шпурляць у глыбіні,
Каб бяздумна ў дамах
Мы сябе не згубілі.

Каб набрыньваў наш слых
Гукаскладам пявучым,
Каб сябе ды па іх
Мы маглі перавучваць.

Каб спякотнай шашой
Ды пад думныя кроны
Да сябе ты сышоў
Ды з чыхсьці старонак.

Жыцьму зноў па складах,
Нешта зноў далягае:
Мо чужая бяда?
Пэўна, кніга другая...

## Стары кніжнік

Ашчадна,
Разумна,
Высока
Маўчаць друкаваныя страсці.
Стары, як паранены сокал:
Без кнігі ён можа упасці.

Сабраліся ў схове кватэры
Пяшчота,
Прыгода,
Пагарда.
То плоць нежывое паперы
Начынена нервам і гартам.

Тут дыхаюць смутак і слава
І воклічаў шчасця не сцерці.
І маецца ў кніжніка права
Унікнуць надзённае смерці.

З кіёчкам у летняй ахвоце
Выходзіць, усохлы, на ганак.
І чуе дзядок на адлёце:
Шапочуць старонкі маланак.

Ля тэлевізара

На газонах — бітком:
Наркатычныя старты,
Дзеці сытых бацькоў,
Вам бы голаў не страціць.

На кабінах аўто,
На плакатах
І майках
Расплясканы жаўток,
А не радыя макі.

У гаючым агні?
У няголеным брудзе?
Будзе час чысціні?
Не! Напэўна, не будзе.

На асфальце раса
Будзе з ясным азонам,
Ці паспеюць распяць
Свет з раз'юшаным звонам?

## Мяшчанка

На выставе, на рынку
Лёс не будзе клясці,
Не скакаць пад катрынку —
Як індычка — ісці!

Каб зайздросцілі злосна,
Пазіралі услед.
Не кабета — а лозунг,
На абцасах партрэт.

У мяшчанскім салоне
На тахце, не ў брыдзе
Ёй не будзе салёна,
Як салёна ў градзе.

Не [redacted] абліччам пачвары,
Ды, здаецца, вось-вось
Дасць анучай па твары,
А спачатку — кось-кось...

Да высокіх інстанцый
Праз вахцёраў і гром,
Хоць сцяною паўстаньце —
Дык праб'ецца сцягном.

Ад яе рыдыкюля
Здрадай воўчаю тхне.
Не адхрысціць ад кулі,
А на кулю штурхне.

У яе прыхаваны,
Як у сейфе пасла,
І сляза пахавання,
Абгавор на пасля.

Трантаў, бы транспарантаў,
Муж на іх — да граша.
Для душы кватарантка,
А на людзях — душа.

## Парахня

Каб не стацца калекам,
Спраўна стаў аграбаць
Ён апеку, як лекі,
У бацькоўскіх рублях.

Дзе спакусы пілюля —
Не патрэбен рэцэпт.
Ён сваё упалюе
І зацісне ў руцэ.

Пад агніскам рэкламы,
Дзе узбуджаны бар,
Ён юрліва рукамі
Ашчаперыў «тавар».

Пахам мутнае мяты
Быў прыкметны дуэт:
Ён, да форсу аматар,
Ёй сябе аддае.

Даўгалыга галёкаў,
Каб яе асвяціць,
Сам слабы на галоўку,
І ў яе — дэфіцыт.

Ля чужое кішэні
Змахляваць, пажаваць —
Вось такія кішэлі
Не мазоль нажываць.

Ён у крыўду не дасца,
Марнатраўца і жох,
Прадаўжальнік дынастый,
Тых,— на шыі чужой,

І падумаеш, гіцлі,
Іх вазьмі варухні —
Фосфар тлі засвіціцца
У душы з парахні.

Дзеб, стрывожыўшы вуха,
Слёзна ручкай махаў:
Чуеш,
Сыплецца глуха
На зямлю парахня.

## Зязюля

А ландыш стаіць у цяньку,
Як згадка халоднага лета.
Над ім глухавата «ку-ку»
Гучыць, бы са склепу планеты.

З якога ты боку ідзеш,
Той голас забыты — нязбытны?
Ідзеш да мяне ты найперш
Жывы.
Дарагі.
Не забіты.

З краёў, дзе маленства
крысом
Ахілялі паданні і ветры,
Дзе, спынены бору красой,
Глытаў я паветра у нетрах.

З краёў, дзе надзеі былі,
Старым каб заўчасна не стацца,
Таптаць пад зарою палі,
Спяшацца да зор, нібы станцый.

З краёў, дзе праз сон у руку
Прыходзіш,
Знаходзіш,
Трываеш.
Чаму ж ты заўчасна, «ку-ку»,
Мяне ад мяне адрываеш?

На сёння пакінь... надалей...
Трывогі,
Аблокі,
Учынкі.

Бо сілу і ім надае
У спадчыну голас айчынны.

А нанач маўчанне пакінь.
І думацьму, стомлены, чуйна:
У сховах нязнаных глыбінь
Зязюльчына сэрца начуе.



## Другое дыханне

Як спушчаны раптам курок,
У сне,
Самалёце,
Духане
Адкрые сябе незнарок
Другое дыханне.

У стоме,
Адчаі,
Бядзе
Надзею не мкніся закрэсліць.
Як новай паэмы раздзел,
Дыханне другое ўваскрэсне.

Няхай ты да ніткі прамок,
Цябе хай ніпгто не застудзіць.
Выдатнейшая з перамог
Вось тая, што бліснe і будзе.

Рванецца душа на прасцяг,
Забудзецца ўсё, што заганна.
Уздыме прытомлены сцяг
Другое дыханне.

Успыхне запал у крыві.
Паўстануць дарогі для зроку.
І подых і зор, і краін
Пакліча да новага кроку.

А пойдзе дыханне на збой,
І побач апынуцца здані,
Бы вецер, стаіць за табой
Другое дыханне!

## Шум дажджу

— Пеця, [redacted] ты помніш шум дажджу? — спытаў я.
— Забыў ужо,— сказаў ён і задумаўся.

*З касмічнай размовы*
*В. Севасцьянава і П. Клімука*

Ён прыходзіць здалёк на ранку
І становіцца між прысад,
Дзе ляціць на глухую дранку
Незавершаны лістапад.

І хвалюецца сам употай,
Што збірацца пара у свет,
Каб вярнуцца захмарна потым
Зноў за восенню след у след.

Шум гаючы
І шум шырокі
Занавесіць акно ў ніты.
І тады не пачуеш крокі —
Гэта ты падышла? Не ты?

І спяшаюць на споведзь шуму
Леты з колішняе лазы.
І тваю абдымаюць думу
Рукі,
Пацеркі,
Валасы.

Бы над кнігай не ў людным месцы,
Над уласным жыццём сяджу.
А яно ўсё ніяк не змесціць
Шум дажджу.

## Ноч на Літве

Літоўскі месяц сама ўглыб
Вядром пялёхне спудным.
Нібы з натугі галубы,
Ажно застогне студня.

На недакошаных лугах
Вісіць туман пры лозах.
І ў патаемных берагах
Рака паслала ложа.

Ахілены начным крысом,
Стаміліся начлегі.
Не спіць сузор'е Гончых Псоў.
Вартуе хутар Вегі.

У дальні свет праз родны край
Ідзеш і не павернеш,
Дзе Балтыка праз небакрай
Адчыніцца ў павер'я.



## У прыбалтыйскім горадзе

Дажджу на ранку не да спеху
Высока брамы адчыняць,
Дзе ўсёй гісторыі даспехам
Прыпала ў роздуме стаяць.

І вежы расстраляны купал
З прыдыхам хіліцца назад.
І дрэвы, што ўзраслі у купе,
Сказаць маўчаннем могуць шмат.

На думнай вуліцы дарэмна
Няма на шыльдах засцярог
(Каб кожны цішу прыбярог):
«Увага!
Побач вечнасць дрэмле».

Раптоўна ападае позірк
На спіс імёнаў.
На пліту...
Як птушак барыкаднай прозы,
Сцягі цалуеш на ляту.

І бачыш,
Як з-пад равелінаў
І з ценю згорбленых муроў
На волю вынырнуў мурог —
Абняць балтыйскую раўніну.

## Тбіліскі агеньчык

Чырвоныя дахі Тбілісі,
Метэхі, як свечка Куры,
Чаму вы раптоўна збыліся,
Дзе памяць, як воблак, курыць?

Па стомленых схілах Мтацмінды
Да бронзы платанаў і сцен,
Як плоць незгасальная мідый,
Нячутны агеньчык зляцеў.

Пад свістам дажджу над кварталам,
Пад шэлест вады, як гюрзы,
Яго уначы ратавала
Накідка зялёнай лазы.

І жылка на скроні дрыжала,
Як лісцік празрыстай травы.
Казбек праплываў дырыжаблем,
Бы долі яго вартавы.

На схіле начы, як цясніны,
Ён вейкам нябачным міргнуў
І нібы схаваўся за спіны,
Чые — разглядзець не магу.

Ды ўсё ж на яго не забыўся,
Успомніўся ўсё ж не з віной
Нячутны агеньчык Тбілісі,
Таемны грузінскі анёл.

## Жывапісец

Карціну трымае падрамнік,
Там плешчуцца фары дарог.
Імгненныя зборы пад ранак,
І будзь у паходзе здароў.

Над грубай падлогай майстэрні,
Як белая птушка, завіс
Не воблік дзікунскіх містэрый,
А часу істотны абрыс.

Усходзіць багульнік на сопку.
І Нёман дзярэ жыватом.
І ў фарбе ніколі не ўсохне
Любові святы завіток.

І пэндзаль — нішчымная проза —
Чужыя не ўкнеціць грахі.
А позва стаіць на парозе
І кліча ізноў з-пад страхі.

А той, хто кішэняй прыкуты,
Не зловіць ні ў вочы, ні ў сны
Ні бронзу на твары якута,
Ні бронзу наддзвінскай сасны.

Не лішак з сабою бярэцца:
Лісток і сухар усур'ёз.
А потым вясёлы берэцік
Надзене мастак Гаршкавоз.

## Лятанне на даху

Свабода. Падшыванцы
Сябе пацехай кормяць.
Зялёны мох на дранцы.
Чырвонай цэглы коміи.

Вясна праменне доіць.
Унізе сохнуць росы.
Абняць нябёс бяздонне
Хацелі рукі ўроскід.

Стрыжы рачной прыгоды
Над берагам літалі.
Сусвет страху разгойдваў,
Аж сэрца вылятала.

Паклаў цяністы бераст
На хату стог чупрыны,
Нібы хацеў аберуч
Стрымаць адлёт з айчыны.

Стрымала кветка спевы,
І недзе голас войкнуў.
Глядзеў крывавы певень
Халодным судным вокам.

І ўсё дакорам стала
З лятальным, бач, працягам,
Што хмара засвістала,
Як здрадаю працята.

І ўраз залекацела
На ветры пер'е страху
І плавала, ляцела
У вір высокі з даху.

## Маналог вясёлага сіноптыка

Я вам адгадаю пагоду,
Там сонца прыгоршчамі пі,
На заўтра,
На месяц,
Паўгода.
Хоць скуру пад сонцам злупі.

Захочаш дажджу — дык заліся.
Ён хлыне на гай і гудрон,
На вольную плошчу залысін,
У смяглае дачы вядро.

Я вам цішыню дакляруючы,
Прымайце ласкава азон.
І сінькі абшар падарую,
Каб вочы апырскала зноў.

А некаму хочацца грому,
Што хіліць на хвалю аер?
Вядзі яго далей ад дому,
Узяўшы прамень напавер.

А можа, каму завіруху
Праз ноч навылёт заказаць?
Свішчы, завіруха, у руху,
Як свішча шалёная раць!

Няхай жа такія прагнозы
Нягоды цыклон абміне.
Ды ёсць, несумненна, пагроза,
Што прэмію здымуць з мяне.

# Перспектыва

А думаў: не буду старым.
Знямога.
Пагарда.
Кульбака.
Юнацтва ўцягнулася ў дым,
А з дыму заявяцца байкі.

Пра тое, што быў малайцом.
Жанчыны.
Прыгоды.
Уцехі.
За шкоднасць не піў малачко
У войску, сяброўстве і цэху.

І што давялося спазнаць
Таемных аналаў глыбіні,
І словы любіць дапазна,
Як іншыя іх не любілі.

І што асалода была.
Была, як дастатак, нястача.
І сонца узыдзе з былля,
Дзе шчодра гады прамантачыў.

На ганку знясіленых кроз
Сабе ты падпішаш заяву,
Каб байку ўспрымалі ўсур'ёз,
І байка абернецца явай.

І думацьмеш, нешта стварыў.
Няхай яно носіцца бурай:
Не ведаў, што буду старым.
Ну, і дурань!

## Да пытання пра шаравую маланку

> Фізічная сутнасць «акта тварэння» шаравой маланкі застаецца пакуль што шмат у чым загадкавай.
>
> *З друку*

Туды, дзе нікому нішто не баліць,
Як міф міліцэйскай мігалкі,
Са свістам ляціць шаравідны балід
У раму старой камуналкі.

І той, хто дагэтуль свістаў маладым,
На скронях за міг пастарэе,
І выпусціць з трэскам уедлівы дым
Рабрысты метал батарэі.

І дыбам пастануць талеркі з цырат,
Алкаш не захоча «трайнога».
І будзе заслеплена лоб выціраць
Пасля акуляр астранома.

А потым даведацца можна з газет:
Бывае...
Казалі...
Выпадак...
Ці мала чаго і цяпер навярзе
Страхоццяў мінулага спадак?

Урвістыя ўсё ж. Не скажы, малайцы,
Студзіць і газетныя гранкі.
Ды чую нутром:
Як за грэшным ляціць
Анёл шаравое маланкі.

## Балада пра арла і воўчы след

Старой расы аклад
На воўчым следзе стыне,
Накінуты наўзгад
На драпіны пустыя.

А ўверсе шлях арла
Нікому невідомы.
Як сцюжа там раўла,
Крылу адно вядома.

Застыў драпежны дух,
Што прывід ля дарогі.
Арол не ловіць мух,
Ваўка пракормяць ногі.

Арла ніяк скарыць,
Яму нішто не лесціць.
Ваўка як ні кармі,
Ён позіркам ў лесе.

А сквапныя лаўцы
Хапаць ахвяр за выю.
Арліна час ляціць,
Бяда па-воўчы вые.

Друкарскі ўзнік радок,
Трывогаю адбіты:
«Душылі гарадок
З ваўчыным апетытам».

Радок шаленства кляў,
Ды быў і іншы запіс:
«Загналі цвёрды кляп
Смярдзючай воўчай зяпе».

Мусове тут дадаць
Рашуча і сурова:
Арлу далей відаць.
Зямля такі — арлова.

## Марозная балада

Вісела мёрзлая вада,
Нібы празрысты меч.
Яна схапілася, відаць,
За схіл магутных плеч.

Відны у водсветах зары
І тайна, і адчай.
Мне давяраліся звяры,
Нібы замкі ключам.

І снег сябе, як гора, нёс
На могілкі з канаў.
Не будзе літасці з нябёс,
Не будзе, каб канаў.

У зазвінелы зарапад
На покрыве палёў
Сляды у змроку зарыпяць,
Дзе скончыўся палёт.

Рукамі вейкі прадзяры,
Каб сам не скамянеў.
Стралялі дрэвы пры зары,
І не было мяне.

## Выпраўленне памылак

У гербарый збіраць
І шу-шу, і ухмылкі?
У сумлення барах
Выпраўляю памылкі.

У лістах і ў слязе,
На паперы і ў лесе,
Нібы чэрці ў лазе,
Тыя з выспяткам лезуць.

Ці з высокім кіўком,
Ці паказваюць цэтлік,
Падступаюць з кійком.
І з надрыўным фальцэтам.

«Факт,
Што дрэнна рабіў:
І маніў, і абразіў,
Ды і сам ты рабы,
І радня з табой разам.

І адрынуць назад
І зямля, і прадонне,
Як цябе ўсё ж назваць?
Найдакладней — падонак».

То закуты ў браню
Надрываецца голас.
. . . . . . . . . . . . . .
Не сябе бараню,
Сам анёлкава голы.

Толькі тых, хто няўсцерп
Балансуе на канцы,

А не тых, хто ў хвасце,
Бараню рызыкантаў!

Будзе пекла палаць:
Па памылках — памінкі.
Годзе іх выпраўляць,
Паўтараю памылкі.

## Згадка пра сухое дрэва

Вечар вогнішча і сяла
Грукоча дрыготкімі дровамі.
Ходзіць прымаўка весяла:
«Сухое дрэва — здаровае».

Шурпаты каснік агню —
Над думкамі і каровамі.
Скажу, як дугу сагну:
«Сухое дрэва — здаровае».

Пацвердзяць з вядомых месц —
З Купалля,
Паўстанка,
Бровара,
Мае істотны змест:
«Сухое дрэва — здаровае».

Было не да пекных муз —
Шпурляла ў азарце з ровара.
Адзначыў чарговы гуз:
«Сухое дрэва — здаровае».

Завеяў аслеплы гурт
Ровам сусвет адорвае.
Даводзяць марозы з гурб:
«Сухое дрэва — здаровае».

Ды ў тлуме, нібы ў бары,
Сабе намякаю стоепа:
Ліха яго бяры:
Гары яно — быць сухастоінай!

## Сталярка

Мігцела сонца цыркулярка
У промнях, у баку ад бед.
І пахла смолка і салярка,
І пад паветкаю сталярка
Газету слала пад абед.

Заселі ў голаў моцна словы:
Майстэрства. Праца. І сухар.
І хмель пранізліва сасновы,
Фуганка посвіст адмысловы
І зараз асвяжаюць твар.

На посцілку празрыстай стружкі
Садзіцца у прытоме дзень.
А потым лье ваду з кадушкі
І, мокры з пятаў да макушкі,
Удзячны стружцы і вадзе.

Хаця мурзатым падшыванцам
Навуку не ў ахвоту грыз,
Ды зараз сверб сячэ па пальцах,
Каб мець не толькі радасць з працы,
А дыхаць ёю нарасхрыст!

## На былым балоце

Балотным ручаям
Не ў навіну усохнуць.
Адходзяць тут і там,
Нібы ў музей той сохі.

Ляжыць жалеза след
На травах, як кальчуга.
Зазнаў жа бусел бед
І стаўся валацугам.

Не будзе між куп'я
Нагой высокай боўтаць.
Падобны да кап'я,
Чарот сышоў з балота.

Угледзецца паспей —
Палае ў стратасферу
Барвовай пенай пень,
Падпалены сякерай.

## Шал вятроў

Вятрам, як ганчакам,
Па полі слацца лістам.
Калі зіму чакаць —
Чакай яе са свістам.

І між стагоў саломы
І востра́й асакі
Рабі такія зломы,
Пажарнікі каб дома
Хапалі бусакі.

Надпольным дзікім гікам,
Абуджаны знарок,
Са страху стаў заікам
На небясі прарок.

А бабка: «Пашалелі!» —
Шаптала, каб зракчы.
А дзед дадаў: «Наспелі,
Ядры іх, смаркачы!»

А тым —
Няма ні весніц,
Ні стрэх,
Ні каўняроў,
Балююць — бы прадвесне
Раве на сем бароў!

Пад іхні шабас самы —
Снягі — за цугам цуг.
Запрэжаныя ў сані,
Вятры ірвуць ланцуг!

## Прадвесне

Палапленыя снягі.
Вясна пазначае гоні.
Абскубаныя стагі
На полі, як на далоні.

Вісне туман сыры
На дрогкім уборы лозаў.
На мёрзлай пішчаць кары
Знакі ад даўніх лёзаў.

Вясна на двары страсе
Зрэб'е,
Мяхі,
Абновы,
Каб шпачыку на страсе
Вярнулася зноўку мова.

## Слонімскія настроі

*Алегу Лойку*

Ачунялі кроплі і лісткі,
І не ўседзець радасці на ўслоне.
І ляціць пагудка напрасткі:
Не мінуць бы неўспадзеўкі Слонім.

А ў Слоніме
Дыму шмат у коміне.
Трэсне раптам комін —
Задубее Слонім.

Ды на лабазоўскіх вільчаках
Скрозь шпакоўні цешацца маёва.
Ходзіць школа ў лёгкіх пінжаках,
І шынель цяжэе для маёра.

На гадоў прысады падаў квет.
І крышталь садоў быў стогалосым.
Пелянiцын кідаў гарсавет,
Каб адслухаць веснія дзівосы.

І пры тым пры ўсім грыміць трава,
Нібы не асфальт тут — шлях у полі.
Як жа гэты міг ўратаваць? —
Шчара носіць хмарку у прыполе.

## Выхадны ў даяркі

У натруджаным сне
зарыкалі каровы.
...адна...
...а потым другая...
І ўсчаліся каровіны
перазовы.
І жанчына раптоўна
прачнулася.
І пачула ў роспачы,
што ўжо сонца
бразгае
ранішнім рукамыйнікам.



## Пілуем дровы

Будуць кроны
гусці і трашчаць
пад паліванаю кафляй,
за жалезнаю засаўкай.
Так гудзе завіруха
ў выстлым садзе
пад вечар.
Музыка падарожнага,
маленства
і успаміну.
Будзе цяпло атуляць
вопратку млявую,
валёнкі ў куце
і шыбы,
замураваныя лёда́м.
А там, глядзіш,
над кніжкаю стомленай
неўпрыкмет
і на сон пацягнула...
Пад сонцам
гарачым і смольным
з бацькам пілуем дровы.

## Спроба аўтапартрэта

Мне глядзець давялося
у безліч люстэркаў.
У высокі блакіт
з зорным жвірам
на дне.
У свіцязянскую бездань
з маладзіком
на адлёце.
У глыбозны калодзеж
з рэхам маленства
у схове.
У вочы твае,
ацалаваныя
інеем.
Але акрамя ардынарнага
індывідуума,
нікога там не пабачыў.

## Раніца на балконе гарадской ускраіны

Зеленалістая вёска
ўрываецца
на балкон незачынены
з ночы.
Шолахам саду
абмытага,
подыхам
празрыстага дыму,
і
лопатам рухавічка.
А над усім верхаводам
певень —
на горла бярэ
нахабна.
Ажно хлапчуку на балконе
няўсцерп захацелася
кукарэкнуць.

## Вынаходніцтва веласіпеда

Ну і дзівосы
хаваюцца пад пацерай,
якой спавіта рама
толькі што купленага веласіпеда.
Як не цярпіцца іх абнародаваць.

Што за нязвычныя пахі
у кватэры, дзе поўна
талерак, сукенак, кніжак запіклёных?
То ж пахі алею машыннага,
ажно кружыцца галава.

На падлозе з металу ламачча.
Уверх дном
усё перавернута,
і колы ў тым ліку.
Ніхто не помніць такога бедлама.

Колькі ўспыхнула раптам
цікавасці, здзіву
і зайздрасці ў дзіцячай гурме —
гэта выведзены на вуліцу веласіпед,
як стаеннік у дакалгасную эру.

Ды з тэхнікай кепскія жарты,—
чаго яшчэ не даўмеўся
выпрабавальнік абдзёрты,
у слязах і пяску.
Напэўна, было не балюча.

Так па абедзе учора
адгрымела падзея —
на вачах усяго двара
быў вынайдзены веласіпед.
Канчаткова.

# Музычная школа

З самага ранку,
калі шпакі выпраўляюцца
ў поле,
спяшаюць да вокан сініцы
і раскатурхваюцца вераб'і,
раптам
пікне санлівая скрыпка,
абачліва рыпне баян,
абзавецца фартэпіяна
знянацку.
І зноўку ў доме насупраць
пачынаецца тое,
што акрэслена выразам:
хто ў лес, хто па дровы.
Цікава,
колькі часу можна трываць
какафонію гукаў,
нават багаславёную
дакладным раскладам?
Да самага вечара.
А потым у прыцемку
ў клас цішыня заступае,
каб навучыцца спакусу
адолець —
не дакрануцца, крый божа,
да клавішаў
пальцам.
Вось чаму пры ўсім дый пры тым
Гэты дом называецца
Школай.

## Заапарк

Той засынаў задаволены
цёплай вячэрай
і побытам.
Суседа на сон
павяло
ад бясконцае валтузні.
А тыгр упаў
на паласаты
матрац
з марай пякучай
пра джунглі.
І раптам прачнуліся
ўсе.
І доўга не маглі
дакумекаць:
з-за чаго гэта слон
зазлаваў
у эпіцэнтры сноў
заапарка?

## Ранішнік у дзіцячым садзе

Ніколі не бачыў
столькі
сур'ёзных дзяцей
за вясёлым заняткам —
спаборніцтвам.
Ніколі не назіраў
за вясёлым каскадам
эмоцый,
якіх нішто не падменіць
на свеце.
А дома
сеў пачытаць старэчыя мемуары.
І раптам дапетрыў:
іх трэба пісаць
пасля ранішніка
ў дзіцячым садзе.

## Гродзенскі раддом

На бульвары каштаны заснулі,
зашклёныя холадам
ночы.
Месяц завіс выпадкова
на рагах
Казярога.
І Нёман прылёг
на рыбацкі лахман,
не паспеўшы з начлегам
да Балтыкі.
Доўга яшчэ да світання.
І свецяцца хіба што
толькі вокны
гродзенскага раддома.



## Вакзал чакання

Відаць, цябе не пускалі
сюды
спачатку сонныя правадніцы,
потым вятры
на сцюдзёных пуцях
прасторы,
а яшчэ
плёткі злыя,
што жылі з табой у падсуседзях.
Пра іх дачуўся, напэўна,
светлафор
перад станцыяй стрэчы,
і ад злосці ў яго
крывёй налілося
старэчае вока.

## Сіноптыкі

Прагноз абяцаў мне
халады ў тваім
маўчанні,
туман у тваіх
учынках,
хмары на небасхіле
тваіх вачэй
і, нарэшце, ураган
з перунамі і градам
у нашай хаце.
На шчасце,
нічагуткі не спраўдзілася.
Няўдзячная доля
ў сіноптыкаў.



## Вясковая бібліятэка

(Жарт)

Кніжны,
паштучна палічаны гурт
адпачывае ў цяньку
на паліцах.
За даглядчыцу тут
выпускніца
мясцовае школы.
У жніўным імпэце
спякота.
З авечай пакорай
і кнігі,
і іх ахмістрыня
безнадзейна чакаюць
драпежніка —
прыезджага кнігалюба.

## Поўня, паэты і крытык

На яе наплывалі
сярдзітыя хмары
пасля вячэры апосталаў.
Шкуматалі яе
вятры згаладалыя,
як сабакі.
Сціскаў мароз
да сіняга звону
падчас дэфіцыту
на паліва.
Ды бясконца дзяўблі
прагнымі пёрамі
вершатворцы —
аматары лёгкай спажывы.
А крытык,
дык той і сёння
будзе да ранку лічыць:
колькі ўсё ж яек
было засмажана
на гэты раз
на апаноўцы поўні.

## Замалёўка сакавіка

Стаяла графіка бяроз
І кожнай галкай шапацела.
Ад галак тых за перавоз
Пагудка з крыллямі ляцела.

Пра сакавік і ледаход
У схове вербаў і туману,
Што будзе незвычайным год,
У лісце хуткае прыбраны.

А потым будуць дзень пры дні
Трымаць у прыгаршчах праменне.
А салаўі —
Не абміні —
Наладзяць сэрцу перамены.

...Нястомны галчыны народ
Грунтоўна гнёзды з крэчам ладзіць.
І ў агарод пра недарод
Ад галак вестка не залазіць.

## Замалёўка ліўня

У травах ціхне звон.
Іх ніца вецер горне.
У чэрвеня ізноў
Наліўся мускул громам.

Узнята ўгору дном
Цыстэрна цяжкай хмары,
Аж ходзяць хадуном
Абшары і папары.

Спяшаюцца у схоў
Стары,
Дзіця
І пташка.
Ім з чатырох бакоў
Зляцецца ўсім няцяжка.

Зноў плешчацца у плюшчы.
Трашчыць —
Чутно пад ранкі —
У ліўня на плашчы
Сухое шво маланкі.

## Замалёўка двара

Акораны пень на двары.
Дрывотня.
Сякера.
Калода.
І трэсак халодных дары,
Як скрылікі ломкага лёду.
У звоне на ранку раса.
У бляску ад сіні каса.
Нядоўга дылему рашаць:
Маўчаць ці аб гэтым казаць.

## Замалёўка ракі

Драпежная птушка скапа
Ляцела наводдаль парома.
І меліся коней купаць,
І гурт не дзялілі пароўну.

На выдме сушылася снасць.
Гудок абзываўся ляніва.
Рацэ не хацелася спаць,
А чухаць жывот каля нівы.

Магнітная тайна глыбінь
Не зычыла знацца [redacted] бядою.
Каменню паліла ілбы.
З парома здымалі бітоны.

Сплывала хмурынкі сіло,
Затокі мінаючы раску.
Адсюль каб ірвалі сілком,
Карэнне не дасца адразу.



## Экалагічны верш

Кароткі век пчалы,
І доўгі век машыны.
З падножжа пачалі,
Завершаць на вяршыні.

На грэчкавых палях,
Наверсе і ў кар'еры
Машына — на паях,
Пчала ў сваёй манеры.

На ўласнай паласе
І аўтар рад старацца,
Бо праца узнясе,
Яна не згубіць, праца.

Машына і пчала.
Жывое і нямое.
Пчала — дык пот з чала,
Машына без знямогі.

Схаваная пад спрат
Машына ўмэнт застыне.
Пчале не стрэсці спраў,
Бо справы залатыя.

На старасці пачаць
Не здолееш з падножжа,
Паставіць час пячаць —
Лічы,
Што нож у ножны.

У мёдны медальён
Пчалу прамень памесціць.
З машыны адальём
Метал. І зноў замесім.

Не ў валтузні мышынай
Сабе распачалі
Кароткі век машыны,
Бясконцы час пчалы.

## Палявыя зёлкі

Стракатых зёлак палявых
Стаяць шырокія атрады.
Каб іх агулам палавіць,
Не дасць ніхто, напэўна, рады.

На перакосах, ля дарог,
На бліжнім стойбішчы паляны
Іх лёс для вока прыбярог
У дзіўным свеце палымяным.

Трыпутнік,
Дзятлінка,
Чабор
Не робяць ласку краявідам,
Тады чаму і для чаго
Іх мне навекі нехта выдаў?

Мятліца,
Слёзкі,
І куколь,
І медуніца, і бяссмертнік
Мацуюць глебу, ды [illegible] якой
Іх ледавік не зможа сцерці.

Калоціць дрэвы і палац,
Калі ў шаленстве бура вые.
Не можа бура паламаць,
Між іншым, зёлкі палявыя.

# ВАЎКАВЫСКІЯ НАКІДЫ

## Запозненьі рэпартаж з раскопак археолага Пеха

На раскопе бяды
Не начуюць даспехі.
Здзірванелі сляды
Археолага Пеха.

А на Шведскай гары,
На прыстанках нябыту
Ён на «ты» гаварыў
Не з жывым, а забітым.

Уздымаў на траву,
Як дзяцей — асцярожна —
Тых трывог булаву,
Крэмень з іскры трывожнай.

Са славянскіх капцоў
Пад высокую хмару
Вылятала кап'ё
У напрамку татараў.

А найболей прылад
Рукі тут выграбалі —
Ніву вывесці ў лад,
Нож, каб знацца з грыбамі.

Век з камення глухі
Да сягонняшняй дзеі,

Ды былога плугі —
Продкі нашай надзеі.

...Прыцішэла сапе
І пытае вандроўнік,
Як жа лепей сабе
Шлях пазначыць дадому.

— Як жа шляху наконт?
— Лепш усё-такі пехам,
Як прыгонны вякоў,
Толькі з пашпартам Пеха.

## Мастакі

Ля усохлых мальбертаў
У ашчадных штрыхах
Іх пад сонцам і ветрам
Бог пад локаць штурхаў.

І да рэзі — высока —
Воблак з буслам лятаў
Над палітрай-вясёлкай,
Каснікам палатна.

І ў закутку драўляным
Пад аховаю дрэў
Фарбы радасць спраўлялі,
Каб загнулася дрэнь.

Мастакі Ваўкавыска
Сярод тлумнай раўні —
Не высокая выспа,
А яе карані.

На празрыстых карцінах
Край у кроплі відзён —
Так яны скарацілі
Шлях да колішніх дзён.

Дзе залеглі паданні,
Прыглядайся здаля...
І над намі, над намі
Неба.
Фарбы.
Зямля.

## Аптыміст

Даўно асфальт залёг на брук.
Гудуць, як ракавіны, рэйкі.
Не адбіваецца ад рук
Радок рашучы Бандарэнкі.

У падыходзе да пяра
Была надзея недарэмнай.
І пафас грудзі распіраў
У маладога Бандарэнкі.

Жавалі жвачку у хлявах —
Лянівa нылі недарэкі.
Ды рыфму зноўку хваляваў
Радок селькора Бандарэнкі.

Дзяўчаты зорку і зару,
Бы кветак польных абярэмка,
Прымалі ў лепшую пару
Ад камсамольца Бандарэнкі.

Асколка знерваваны рып
Пад медалём чуцён, як стрэмка.
Пад кананадаю ахрып
Былы акопнік Бандарэнка.

І піянер, і ветэран.
Спагадна раз'яснілі зрэнкі,
Як Бандарэнка выціраў
Слязу крутую Бандарэнкі.

Як снегіра не застудзіць,
Не распаліць пад неба рэкі,
Вось седуном так не сядзіць
Радок сівога Бандарэнкі.

## Птушка ў тумане

У асцярожным тумане
Птушкі вільготнае знак
Раптам на воку паўстане,
Бы хто яго шэптам узняў.

Старая і доля у птушкі:
Палёту канец не відзён.
Туману завісла пялюшка
Над самай глыбокай вадой.

А бераст з разнымі лістамі
Для птахі адмерваў спачын.
А птаха ўцякае ад сталі —
Злавесная сталь за плячмі.

У свеце ірвецца са звонам
Зялёная грэбля цішы.

Чырвоны усплёск на зялёным.
А смерць і жыццё — спарышы.

Нячутныя крылы. Узмахі.
Тугія шляхі ля грудзей.
Парваныя водгукі страху
Вісяць на лясной гарадзьбе.

Няўжо так зайздросная праца,
Якою жадны́я лаўцы?
Зямля у зялёнай апратцы.
І птаха ў тумане ляціць.

## Капліца на могілках

Забыта, нібы іжыца,
Збудова. Пустата.
На павуціну ніжуцца
Іголкі і слата.

У вечнасці чалесніку
Палае грэшны лёс.
Туды замкнёны в啟сніцы
Для гукаў і нябёс.

Вусцішна. Холад. Хочацца
Пачуць праз ціш прамень,
Дзе дуб сагнула вочапам
Эпоха перамен.

Яна, як кажуць, падкая
Да крыжа і нажа,
Разлучвала са спадкамі,
Без іх тут лепш ляжаць.

Таму — капліца сведкаю,
Пачула — пад замок,
Каб шмат чаго не ўведалі
Пра тых, хто ўжо замоўк.

Крычыць расшяцце пальцамі.
Ці рацыя крычаць
Над тымі пастаяльцамі
Пад вартай крумкача?

## Вакзал

У жалезе дыхае Цэнтральны.
І дыханне чуе аддалёк
У абдымках польнай пастаралі
Найсумежны горад Беласток.

Глуха у запасе паравозам,
Ды пад пломбай не учыніш гвалт.
Зарастаюць іх пуці рагозам:
Гэта нешта пенсіі накшталт.

На Цэнтральным ля вакон вяргіні
І сады у вуліц на тылах.
Беларус, аселы у Вірджыніі,
Тут слязою вока наталяў.

Нeяк размінемся з эмігрантам
На яго старэчым рандэву.
Толькі у вакзалаў ёсць гаранты,
Што ад суму сам не зараву.

Поруч тэлеграфныя апоры.
Далеч развінаецца ўшыркі.
І ляціць, нібы зязюля з бору,
Вецер, у трывозе, трапяткі.

Нам душа дарогу наказала
Без начлегу,
Стомы з-пад брыля.
І плыве з Цэнтральнага вакзала
Млечны Шлях, нібыта каляя.

## Пілаванне вербаў

Пілавалі вербы ў Ваўкавыску.
І стаяў нязлзіўлены народ:
Хто трымаў запіску, хто — валізку,
Хто парожнім быў наадварот.

Толькі вербам яўна не хапала
На зыходзе старчым на спачын
Не шкады, што ў людзях праступала,
Праступіла б думка: што за чым?

Для чаго жывеш на белым свеце?
Ці узносіш крону да нябёс?
Ці то ў сне, у спісе, сельсавеце
На капейку квапішся найбольш?

Можа, хочаш спадцішка дарвацца
Да пасады,
Выйгрышу,
Хвалы,
Каб гучаў, як сотня авіяцый,
Гул авацый нават з-пад палы.

Ды навошта самасуд і кара
Пасярод калюжын і плашчоў,
Ты ж не пяўся, каб валіла пара,
І тым болей не пішчаў пішчом?

Ды прыпомні ўсё-такі, балесны,
І сябе знячэўку патрывож,
Каб каўнер раптоўна стаўся цесным:
Паўтарыў жа класік тройчы: «ўсё ж»...

...Пілавалі вербы ў Ваўкавыску.
І дзіця паказвала туды,
Дзе ніводзін пень яшчэ не высах,
І такое ў тым было бяды.



# Восеньская дарога дадому

Надоечы ехаў дамоў.
Задумна дарога пралегла.
Яе мы ў нябыт аддамо,—
Задзьме яе ў памяці снегам?

Яе мы з сабой забяром
На самым жалобным кірунку,
Калі яна бліснє з бароў
Ды рады не дасць паратункам.

Калючы рыштокаў пясок...
І бруку пляскатыя гоны...
Бліщчасты шашы паясок...
Калі ён да сонца вільготны...

Ды зноў папярэджвае знак,
І восень прыцішвае хуткасць,
Каб ты нечакана пазнаў
У барве і одуме хутар.

Стаіць ядлаўчынкай дымок,
І сад над травой навісае.
А тут — не прыпомніць — даўно
Ты падаў, гарачы, у сані.

А потым лядовым лязом
Падковы і полаз красала.
Махала дарога лазой
І страх пад адхон вытрасала.

...Дарога ў таполях стаіць.
Цямнее...
Адвечнае.
Хата.

І ліст ад таполі ляціць,
І хоча прастору пакратаць.

Яго ж пад раз'ятраны свіст
Віхура уздыме на рогі.
І падае, падае ліст
У вечнае лона дарогі.



## З сабакам у садзе

Галоднай, як пажар,
Глыдала лісце восень,
Шпурляла ветру ў твар,
Што ў голлі засталося.

Завесаў ржавы зык
Раздзёр душу на часткі.
«Мне ціпу, сад, пазыч»,
«Бяры, бядак, тым часам».

Дык трэба ж, чорт прынёс:
Сярод стваліоў камлатых
Паўстаў маўклівы пёс,
Як розуму палата.

Яго ніхто не зваў,
Ён сам сабе «у курсе»
У лапу пазяхаў,
Як гід усіх экскурсій.

Ды як ты ні круці,
А зеўрае, бы рана:
Адзін нам быў уціск —
Будзілі вельмі рана.

А больш успамінаць,
Дык будзе ўспамінацца:
Яму ланцуг цягаць,
За быдлам мне цягацца.

Ды згадкі ўсё ж ляжаць
У садзе ў добрым ладзе:
Мяне ты ў нос лізаў,
Цябе я горда гладзіў.

І быў лагодным сад
Пры назірку за шчасцем,
Цягні нас, пёс, назад,
Каб нанава пачацца.

Сярод травы густой
Пад воблакам іскрыстым
Мы станем на пастой,
І будзе ў садзе прыстань.

Чаму ж ты так зірнуў,
Маўляў, нашто... няварта...
І вочы адвярнуў
На хвост, як вінаваты.

Куды ж сябе дзяваць?
Давай на ростань сядзем.
Пакінуў сад дзівак,
Сабака зросся з садам.

## Змрок у лесе

Ноч надзела дарозе шоры.
Бісне ўстойліва мокры ліст.
Знервавана уздрыгне ліс
У пясчанай глухой каморы.

Зноў пасталі агні далёка.
У выбоінах след намок.
Спрацавана ляглі на мох
Карані —
вякоў далакопы.

Дубу ў чуб уплялася знічка.
Сон-трава.
Сон-дарога.
Сон.
Змрок раскрыліў свой парасон,
Шлях да вечнасці невялічкі.



## Закладка
## ў кнігу Купалы

Як радасцю абмыты,
Браў верш Ваш у душу,
Нібы ўвайшоў у жыта.
Ці знаў, што апішу,
Што з Вамі перажыта?



## Пад снегам жыта

Жыццё турне —
Жывы нібыта.
Нібы ў турме,
Пад снегам жыта.

Яму, лічы,
На свет няскора.
Яго лычы
Дзяруць пад корань.

Па ім наўскос
Вятры грувастка
Нясуць, як лёс,
Галоп грывасты.

Гудзе над ім
Бяздымны порах.
Нябачны дым,
Ды дзікі нораў.

Пад ім кіпяць
Вулканаў шахты,
Пачнеш капаць —
Нейтронам шахне.

Тады — за нос —
І ў чорны сшытак
На вечны знос
З-пад снегу жыта.

Яно з кугой
Той спіс папоўніць:
Хаваць каго
І дзе, не ўспомняць.

Ды ў шчасці будзь,
Дзіця і кося,
Калі праб'юць
Званы калосся.

## Успамін
## пра колішнюю вандроўку

Па марозе вясеннім,
Сакавіцкім, праз лёд
Я нясу цябе, Ксеня,
У выдатнейшы год.

Ходзім доўга па лесе,
Углядаемся ў лес...
На ствалах, як завесах,
Ён трымаецца спрэс.

Там, у нашай прасторы,
Там, дзе дзед і сады,
З беларускага мора
Выплываюць гады.

Ходзім весела, Ксеня,
Ля прыгод і бяроз.
Так гуляе насенне...
Толькі б вецер не знёс.

* * *

На касцёр не кладзецца ноч —
Ноч кладзецца туды, дзе ціха.
Толькі цені ўстаюць наўзбоч,
І абліччам адзін — ласіха.

Мы забыліся на прасцяг.
Верым мы у агонь і дрэва.
І агонь развінае сцяг,
І калышацца справа ўлева.

Атачылі лясы Дзітву.
Цягне дым да далін магнітам.
І чаму гэта мы, удвух,
Нібы звязаны моцным нітам?

Ты падумваеш пра адлёт,
Я мяркую, дзе зноў прыстанем.
І кальцуе, як птушак дрот,
Нас развàжлівае світанне.

## Двое ў летнім грузавіку

На вымоінах спешных дажджоў
Назіранні страсаліся ў кузаў.
Ты паказвала:
...хлопчык ішоў...
...вербы сталі...
...развалена кузня...

Пад марудным наглядам аблок
Свой гравійка сувой разматала.
І раскручаны пылу клубок
Адставаў, як ганчак, ад металу.

Захлыналіся вочы ў платах,
Сэрца нечым пякучым займала.
І хацелася ўверх адлятаць,
Толькі неба было ўжо замала.

І здавалася, свет прамінем,
Праляцім небасхілу варотцы.
Працінала ты целам мяне
На шалёнай, як дых, паваротцы.

Кальцаваліся ў родным звяне
...статкі...
...вокліч...
...адбымкі...
...прасёлкі...
І ў вушах, бы званочак, звінеў
Сарафан паркалёвай вясёлкі.

## Калісьці зімой, або дарога ад школы

Снег. Аблокі. Іскрыць.
Лес дарогу чакае.
І пад боцікам скрып
У зіму заклікае.

Вейкі. Скоса маўчу.
Сэрца горача мчыцца.
Я сябе навучу.
Не магу навучыцца.

Дзе была сенажаць,
Гурбы стомлена спалі.
Неўзабаве, на жаль,
Сонца гурбы распаліць.

Дзе арэшнік драмаў,
Чырванелі ляшчыны,
Свіст пачнецца дарма
З вершалін і са шчылін.

...На старонцы зімы
Птушкі значылі дробы.
Цалаваліся мы...
Незабыўная дробязь.

## Позірк

Глянула, як яблычак дала.
Кажушку расшпіленаму — воля.
І румянец шугануў здаля
Маладым у росквіце вуголлем.

Спрыту не патрэбна пазычаць.
Слоўка не залежыцца ў кішэні.
І каб свет у смутку не зачах,
Церпіць смутак веселакружэнне.

І снягі ўжо рады надзяліць
Святам,
Нечаканасцю,
Усмехам.
Толькі сэрца горача шчыміць,
Нібыта апаленае снегам.

Горад паспяшае уздымаць
Белыя ў бясконцасці палотны.
І губляецца ў чужых дамах
Позірк, як на шчасце, мімалётны.

## Сляды

Імя ад завеі — Ларыса.
Апушаны снегам сады.
Пасталі яны каля рысы
Слядоў тваіх з чыстай слюды.

А ў іх на краёчку світання
Пасыпала неба мялком,
А потым вятры засвісталі,
Аж ведама, кроў з малаком.

Сляды адбягалі ад ганка.
Сляды азірнуліся раз,
Нібы загадалі загадку
І не пачулі адказ.

І ногі здаваліся з ваты,
Дзе выбелен свет дабяла.
Было кажушку цеснавата,
А там паваротка была.

Шугае з разгону завея,
Штыкецін прабуе лады:
Такая яе прывілея.
...Ірвуцца з-пад снегу сляды.

## Сустрэча

Мужчына цалуе жанчыну.
Над імі завіс снегапад,
І б'юцца па дзіўнай прычыне
Два сэрцы ў папад-неўпапад.

Завея з апекай неона.
Прамёрзлых галін лабірынт.
Няўжо іх былое дагоніць,
Як рэха ў забытым бары?

Ды раптам рука пацяжэе.
Пад грудзі жальба наплыве.
Жанчыну ў павольным кружэнні
Ён помніць на юнай траве.

Яна не прасочыць за часам
І здзівіцца з тактам: ого.
І волас, як вестка, заўчасны
Засвечвае скроню яго.

## Паром ля вёскі Гожа

Распаранай парой
Дзяўчына вельмі гожа
Ступіла на паром
За дзіўнай вёскай Гожай.

На яве ці у сне
Рыпеў паром не ў зморы.
А быў яе усмех
Для нас ці для прасторы?

У небе і вадзе
Аблок стаялі хвалі.
А ў дзеда ў барадзе
Дзве парушынкі спалі.

Парэнча над вадой
Дзяўчыны несла рукі.
Такою вось рукой
Нам дораць рай і мукі...

Ды што тут гаварыць,
Калі ў табе і ў кожным
Не тлее, а гарыць
Агонь і ўдзень трывожны.

Пад буславым пяром
Няўдач і быць не можа.
Прыстань наноў, паром,
Да вёскі з назвай Гожа.

## Вуліца Ясная

Тэма звышсучасная
Загрудкі бярэ.
Вуліца Ясная.
Косы і берэт.

Вішня пад пялёсткамі
Звоніць пакрысе.
Звонка промень плёскае
Зранку па расе.

А на Яснай вуліцы
У акне разным
Шыба сэрцу туліцца,
Каб з'яднацца з ім.

У дарозе ўспомніцца
На пачатку дня:
Вусны піць напоўніцу
Соладка да дна.

Эх, дзяўчына красная.
Гляне — любата!
Вуліца Ясная.
Яснота.

## Гродзенскія дзяўчаты

З Евіных дзіўных дзён,
Вячоркамі зор прыняты,
Зграбны іх крок відзён.
Гродзенскія дзяўчаты.

Каб сэрцам час не грубеў,
Не стала душа кашлатай,
Не кінуць яе ў журбе
Гродзенскія дзяўчаты.

Калі ты расцеш з душы,
Тады і любові варты.
Могуць нашчэнт ссушыць
Гродзенскія дзяўчаты.

Сур'ёзна сказаць хачу,
Для флірту і сам не здатны,
І зараз стаяць уваччу
Гродзенскія дзяўчаты.

З пяшчотаю і красой —
Іхні пасаг багаты.
У вечнасці пад крысом
Гродзенскія дзяўчаты.

Салодкі у лёстак дым.
(У тым не я вінаваты.)
Праз мроі,
Гады,
Заўжды —
Гродзенскія дзяўчаты.

* * *

Драпежнай хмары з лёту
Завесіць небасхіл
І рваць дажджу палотны
Маланкамі ўнахіл.

Вясёлкі блішчуць спіцы,
І колеру рака
Чырвонай чарапіцы
Глухога тартака.

Наўздзіў ідуць настрої
На ўвесь стракаты свет,
І шэпча бор на строме
Глыбокі запавет.

На выпасах блакіту
Імгненне зберажы,
Пасуцца не забыта
І промні, і стрыжы.

Стаіш ты ў светлым строі,
Спыняеш зрок на мне...
Ідуць у свет настрої
Праз рай у будане.

* * *

Сукня твая з дэкорам
Весела запалае.
Толькі глядзіш з дакорам,
Сённяшняя і былая.

Помніш узлёты лета
З воблакамі і стрыжамі?
Рукі твае уздзеты.
Вейкі твае дрыжалі.

Шчасце нас прывячала —
Большага мы не мелі.
Дрэвы ўначы маўчалі.
Кветкі удзень звінелі.

Помніш зімы аздобы,
Зыркія, як сумёты?
Жыць невыносна добра
З радасцю і самотай.

Сходзяцца ў круг пачуцці:
Вераць у міг расстання.
Голас даўно не чуці.
Словы, як снег, расталі.

...Сукня твая з дэкорам
Весела адпалала.
Толькі глядзіш з дакорам —
Так у нас не бывала...

Можа, мае правіны
Сталі таму прычынай?
Ты расказаць павінна,
Сядзем давай чын чынам.

Што ж ты глядзіш з дакорам
У прыстанцыйным дыме?
Рэжаш мяне пад корань
Позіркам, што не ўздыме.



## Балада паштовай скрынкі

Ад цямна да відна
То цяплее, то стыне
Скрынка пошты штодня
Пад касынкаю сіняй.

Слоў пяшчота шасціць.
Шын спяшаецца пошум.
Ля шурпатай шашы —
Раўнадушная пошта.

На шляхах халастых,
У дарог кругаверці
Вецер роніць лісты,
Абыякавы вецер.

Над рыштокам плывуць
І забавы, і хмары.
Весткі шчаснай павук
Недзе бавіцца марна.

Можа, знік паштавік,
Ці зажураны, можа?
Да лістоў ты прывык,
Як уласнік заможны.

І ў цябе нездарма
Іх раптоўна пакралі,
Так карае турма,
Як цябе пакаралі.

Ды прынеслі вятры
І засведчылі гуды
З учарнелай вярсты:
Ты сказала — забуду.

...Чутак рыну брыду.
Людцы мілыя, што вы?
Пабрыду-пабрыду
Зноў да скрынкі паштовай.



## Лісткі з юнацтва

1

### ЧЫРВОНЫ БАНТ

Дзіця раптоўных рэвалюцый,
Агнёў,
Бунтоўных бальшакоў.
Як першы гром.
Як першы люцік —
Чырвоны бант над башлыком.

2

### ШЧАНЮК

Табе абрусы і абрысы,
Нібы прыстанішча ганцу.
Шчанюк не знае пра ланцуг.
Смяецца хлопчык белабрысы.

Ён рады граду і абраду
І рады грукату ў садах.
Буслы збіраюцца сядаць,
І кожны з іх шырока рады.

Далонь шырэйшую за лапаць
Каваль ладкуе пад шчаку.
І ты, наіўны, як шчанюк,
Што ўсім дае шчасліва лапу.

3

*

Сагрэты гнеўнымі губамі,
Як патаемны талісман,
Вы край свой часам не гублялі,
Нібы жалейку у лясах?

І горыч сцятымі мурамі
Ці абкружала ваш палон,
Дзе роздым ранішніх палёў
Свіціцца шклінкаю у раме?

4

*

Для мяне гэта марны час —
Ані ворагаў, ані злосці.
Стаў на высотным мосце.
Цыгаркай маяк зачах.

Вунь пакінутыя дымы.
Паўзабытая перапіска.
Цягнуцца хмары нізка,
Халодныя, як дамы.

А дзесьці дрыжыць лампадкай
Сэрца тваё адно.
На яго далёкае дно
Мне да світання падаць...

5

## СОСНЫ ЛЯ ВОЗЕРА

Сосны ішлі ад возера
Па лёгкіх тваіх слядах.
З іголак падала вобземлю
Растапыраная вада.

У соснаў ад злога позірку
Замарудзілася хада,
І пасталі яны ля возера
На вострых тваіх слядах.

*1967 г.*

## Трыялет зімы

Бы знак шчаслівае зімы,
На снезе хвойная іголка.
І снегу, і душы суполка,
Бы знак шчаслівае зімы.
Хай будзе недасцерпу горка,
Даўно ўжо зразумелі мы,
Бы знак шчаслівае зімы,
На снезе хвойная іголка.



## Трыялет зор

Як ключоў бесхацінных звязак,
З неба вечнасць шпурляе зоры,
І ржавеюць яны ў разоры...
Як ключоў бесхацінных звязак,
Загрыміць у пустой прасторы,
Над табой паўстае Абавязак.
Як ключоў бесхацінных звязак,
З неба вечнасць шпурляе зоры.

## Трыялет маладзіка

Месяц плешчацца, як дзіця.
Неба поўнае, як балея.
Млечны Шлях ручніком бялее.
Месяц плешчацца, як дзіця.
Ручкі, ножкі, каб не балелі,
У сузор'ях, нібы ў лілеях,
Месяц плешчацца, як дзіця.
Неба поўнае, як балея.

## Трыялет агню

Півоняў на фоне акон
Раскрылены вусны агніста.
Палаюць барвова маністы
Півоняў на фоне акон.
Збянтэжаны ўсе арганісты:
Пануе маўчання закон.
Півоняў на фоне акон
Раскрылены вусны агніста.

## Трыялет віны

На мармуровай лесвіцы тэатра
Сто гадоў чакалі вы мяне.
Вас пагляд нічый не абміне
На мармуровай лесвіцы тэатра.
Верылі не праўдзе — а мане
І таго, хто вас зусім не варты,
На мармуровай лесвіцы тэатра
Сто гадоў чакалі вы мяне.

## Трыялет маладосці

Над люстэркам глыбокай вады
Наша шчасце з табоі вечарэе.
Толькі твар твой зусім не старэе
Над люстэркам глыбокай вады.
Нас з табою да скону сагрэе
Шэпт гарачы і шэпт малады.
Над люстэркам глыбокай вады
Наша шчасце з табой вечарэе.



## Вечаровае

Галчыны грай на вежы
Няўзнакі задрамаў,
Як доказ неабвержны,
Што спевы задарма.

Вятры шалююць хату
З усіх яе старон.
Чакае памагатых
І хата, і загон.

Ідуць развагі, травы,
Дзе сыплюцца муры.
Пад воблакам гаркавым
Суіснуюць звяры.

Кладзе табе на плечы
Сваё дыханне сад.
І ўтомлена прыкленчыць,
Як дума, далягляд.

## З нагоды позняга грому

(Жарт)

Раўнуўшы лютасна ўгару,
Каб з тропу зноў не збіцца,
Іпоў навобмацак пярун
На водбліск бліскавіцы.

Старому стрэліла ў рабро.
Служылі вочы слаба.
Ён бліскавіцу зваў рабой,
Калі гнявіла баба.

А тая ўспомніла, відаць,
Калі кахаў ён люта.
Было ім цесна давідна
На воблаку бялюткім.

І перуна давай дражніць:
Спакусна ясь каленьмі.
Салодка жыць як набяжыць,
Табе ж, стары,— не вельмі.

Трасуцца хмараў лахманы,
Іх цягне лёс на плаху.
Сядзіць пярун без гаманы
І ў горы ледзь не плача.

І шэпча: божа, адпусці,
Не дай жа ганьбе збыцца...
Хачу хоць мёртвым дапаўзці
Да вокан бліскавіцы.

## Закапанэ

Нас за рукі трымаў
У шчымлівым капкане
Незвычайны трамвай
У гарах Закапанэ.

Нас за рукі вадзіў,
Першы раз закаханых,
Бляск гуральскай вады
У гарах Закапанэ.

Дзень навек аддаваў
Нам са шчасця сатканы
Разнатраўя дыван
У гарах Закапанэ.

Вусны мы наталіць,
Божа святы, не ўстане.
Як салодка баліць
У гарах Закапанэ.

Маладосці перон...
Там ляцець не прыстане
Аблачынкі пяро
Ад вяршынь Закапанэ.

## Голас

Пакідалі мы Кракаў.
На платформе уздоўж
У сінечы набраклі
Вочы тыя і дождж.

Надвіслянскія пáлі
І стагоддзяў вільчак
Нерухома пасталі
У абмытых вачах.

А вагоны для зруху
Забіралі ў сябе
Патаемную скруху,
Холад шкла на ілбе.

Пакідалі мы Кракаў.
Ты трымцела тады
На дзявочым ускрайку...
З гулкім шэптам грудным.

У стракатым натоўпе
Не спыняліся граць.
Мне ж хацелася толькі
Голас твой утрымаць.

Утрымаць. Не забыцца
У прасторных краях,
Калі б нават забіты
Мог пад ім акрыяць.

Ля стваloў пералескаў,
У вільготных чаўнах
Ветру ўжо не закрэсліць,
Што нячутна чуваць.

І ў гадах непраклятых,
У захмар'і, на дне
Ты не кінеш прыкладваць
Голас свой да мяне.

## Навагодняе

Зноў на ёлцы свята у зары.
І плывуць завеяў караваны.
Нават у здзіўленні звездары
Позірк на зямлю накіравалі.

А на ёй у інеі бары.
І ляцяць і дні, і цеплавозы.
Хоць вазьмі на памяць забяры
Прыгажосць,
Якую больш нідзе не возьмеш.

А на ёй травінка і дзіця
У палоне сну і шчабятання.
Зоры перамёрзлыя трымцяць.
Птушкі трызняць пра сваё вяртанне.

А на ёй працуюць, і пяюць,
І насустрач націскаюць рукі.
Шлях жыццёвы, як надзеі пуць,
З вечнай спадзяванкаю і рухам.

А таму сталіца і калгас
Аб'яднаны думкаю наперад:
Каб жа мірам вызначаўся Час
На цыферблаце велічы і веры.

Непахісны мой зямлячы род.
Ён відушча бачыць і стварае.
Новы год,
Як сонца узыход,
Душы і прастору азарае.

 

## Пейзаж

Памру, пазначаны зімой,
Дзе каляндар чуцён палозна,
Раптоўна кінуцца за мной
У снег загорнутыя лозы.
Вятры прылягуць пад адкос,
І з'едуць да рыштоку сані,
І нехта вышапча: кось-кось...
...Астатняе пішыце самі.



ЗМЕСТ

**Голуб Ю.**

Г 62 Сын небасхілу: Вершы.— Мн.: Маст. літ., 1989.— 142 с.

ISBN 5-340-00189-X.

Голуб Ю. Сын небосвода: Стихи.

Паэт Юрка Голуб (нарадзіўся ў 1947 г., жыве і працуе ў Гродне), аўтар кніг «Гром на зялёнае голле», «Дрэва навальніцы», «Незабыўнае поле», «Помню пра цябе», мае свой творчы голас, сваю манеру пісьма. Арыгінальныя па думцы і па выкананні, насычаныя нечаканымі метафарамі і параўнаннямі, яго вершы хвалююць, запамінаюцца.

У новай кнізе паэта «Сын небасхілу» чытач знойдзе канкрэтныя зямныя рэаліі, убачыць постаці сваіх папярэднікаў і сучаснікаў.

Г $\frac{4702120202-016}{М\ 302(03)-89}$ 46—89 ББК 84 Бел 7

Литературно-художественное издание

ГОЛУБ Юрий Владимирович

СЫН НЕБОСВОДА

Стихи

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне

ГОЛУБ Юрый Уладзіміравіч

СЫН НЕБАСХІЛУ

Вершы

Рэдактар Р. І. Барадулін. Мастак А. Б. Льдокаў. Мастацкі рэдактар Е. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктар Л. П. Бялова

ІБ № 3032

Здадзена ў набор 06.09.88. Падп. да друку 23.11.88. АТ 08780. Фармат 70×90¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 5,27. Ум. фарб.-адб. 5,34. Ул.-выд. арк. 4,47. Тыраж 3500 экз. Зак. 1795. Цана 50 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.